Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

**Вільня, 23-га сакавіка 1934 г.**

**№ 6(31).**

**Год 2-гі**

# РОДНЫ КРАЙ

**ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ**

**выходзіць двойчы ў месяц.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12—2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

**Цана асобнага нумару 20 гр.**

## Непераможная!

**(У 16-ыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі).**

25 сакавіка шаснацаты раз сьведамае нацыянальна беларускае грамадзянства сьвяткуе вялікія ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Дзеялася гэта ў Менску. Незадоўга да таго, у апошні дзень 1917 году, штыхамі маскоўскіх чырвоных войск быў разагнаны Усебеларускі Кангрэс, які пастанавіў распачаць будову аўтаномнае Беларускае Рэспублікі, аб'яднанае з Расеяй фэдэрацыйнымі вязямі. Навет і такое абмежанае самастойнасьці Беларусі Масква не захацела дапусьціць: уступаючы дамаганьням самастойнасьці другіх народаў, як палякі, фіны і інш., Масква засудзіла беларускі народ на поўнае зьніштажэньне, на поўнае абмаскоўленьне яго, — дык і трэба было запыніць магутны народны рух, каторы меў на мэце здабыць для беларусаў права на вольнае жыцьцё, права быць гаспадарамі на сваёй роднай зямлі.

Але нядоўга панавала савецкая ўлада ў Менску. Пад націскам на фроньце нямецкіх войск, расейская армія мусіла адступіць далёка на ўсход. І, калі Менск на часіну стаўся вольным ад чужацкае ўлады, беларусы пачалі тварыць тут сваю ўласную дзяржаўную ўладу.

Нямецкая хваля, аднак, дакацілася і да Менску, агарнула яго і паплыла ажно да Дняпра. Азброены кулак іноў скаваў народны рух. Але й пад нямецкай акупацыяй беларуская дзяржаўная ідэя не зламалася: наадварот, іменна ў гэтым часе, калі Масква ганебна таргавала Беларускай зямлёй і прадавала кайзэру Заходнюю Беларусь, — тады беларусы зразумелі ўрэшце, што ніколі ня будуць мець волі, калі будуць дзяржацца за полы маскоўскіх дыктатараў. І, зразумеўшы гэта, праз вусны Рады Рэспублікі на паседжаньні 25 сакавіка 1918 г. абвясьцілі ўсяму сьвету, што зрываюць дзяржаўную сувязь з Масквой, што прыступаюць да будаваньня Беларусі, як незалежнае дзяржавы.

Але сіла чужацкіх войск, якія пад той час драталі сваімі цяжкімі ботамі Беларускую зямлю, была лішне вялікая, а арганізаваныя сілы беларусаў — лішне слабыя, каб зьдзейсьніць пастановы Рады Рэспублікі з 25 сакавіка 1918 году. А калі ўрэшце нямецкі народ скінуў свайго крывавага кайзэра і клікнуў свае войскі назад — да хаты, камандзіры нямецкіх арміяў здалі беларускія месты, а ў тым ліку і Менск, з рук у рукі бальшавіцкаму войску, якое нанова вярнула Беларусь пад уладу Масквы...

Здавалася, што для ідэі беларускае дзяржаўнасьці настане канец. Але не: гэтым разам не адважылася Масква груба патаптаць так ярка выяўленую волю беларускага народу быць гаспадаром на сваёй зямлі. І 1-га студзеня 1919 году ў Менску было абвешчана ўтварэньне Беларускае Соцыялістычнае Савецкае Рэспублікі, зьвязанае з Масквой фэдэрацыйнымі вязямі.

Думала Масква, што гэтым сваім крокам яна заб'е думку аб незалежнасьці Беларусі. Дык дала беларусам магчымасьць рабіць культурную работу ў межах Савецкае Беларусі. І ў працягу некалькіх гадоў ажылі беларусы: закіпела шырокая дзейнасьць — і гаспадарчая, і асьветная, і навуковая, і мастацкая. Народ беларускі выявіў магутную творчую сілу, утоеную ў ім ад вякоў.

Але гэтая сіла беларускага народнага духа спалохала Маскву. Крэмлеўскія дыктатары ўбаяліся, што такі шпаркі рост беларускае нацыянальнае культуры можа давясьці да таго, што беларускі народ не захоча слухацца каманды Чырвонае Масквы, як не хацеў слухацца каманды царскіх урадаў. Дык пушчана была ў ход правакацыя: савецкая ўлада абвясьціла тое, што йшчэ не існавала, ужо стаўшымся і абвінаваціла ўсіх актыўных беларускіх працаўнікоў на культурнай ніве „укрытымі незалежнікамі“, ворагамі маскоўскае ўлады. І пачалася жорсткая расправа з імі...

Гэты страх Масквы перад беларускай незалежніцкай ідэяй, здавалася, гэтак крэпка закаванай у ланцугі агентамі Г.П.У., зьяўляецца найлепшым доказам таго, якую вялізарную моц мае ў сабе гэтая ідэя. Шчыра ці

няшчыра, слушна ці няслушна, але савецкая ўлада абвінавачывае ў незалежніцтве навет тое новае пакаленьне маладое беларускае інтэлігенцыі ў БССР, якое ўзгадавала савецкая школа, камсамол, парт-ячэйкі і наагул савецкая грамадзкасьць, каторая старалася ў маладых душах выпаліць калёным жалезам расткі нацыянальнае сьвядомасьці і імкненьня да вызваленьня Беларусі з-пад чужацкага панаваньня.

Бо беларуская ідэя — ідэя нацыянальнага адраджэньня, ідэя ўласнага беларускага гаспадарства — гэта-ж ёсьць запраўды непераможная сіла. І савецкая правакацыя, якая жорсткай расправай з усімі нацыянальна сьведамымі беларускімі дзеячамі, каторыя маглі ў будучыні стацца незалежнікамі, мавіцца да гэтага недапусьціць, — на дзеле дасягне зусім процілежных вынікаў: чым больш балюча адчуе народ на сваім карку ціск з боку крэмлеўскіх дыктатараў, тым хутчэй усьвядоміць сабе неабходнасьць поўнага вызваленьня, поўнае незалежнасьці Беларусі.

Хай-жа апошнія падзеі ў БССР паслужаць нам — у шаснаццатыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі — за новы доказ таго, што ідэя нашае незалежнасьці — непераможная. І хай сьвядомасьць гэтага раздзьмухае іскрачку надзеі на сьветлую будучыню ў сэрцах нашых — у вялікае полымя глыбокае веры, што — раней ці пазьней — Беларусь мусіць стацца незалежнай!

# Гені і асьвета.

Ведамы расейскі эканаміст, праф. А. І. Чупроў, любіў паўтараць, што, ня кажучы ўжо аб іншых карысьцях, адна толькі тэхнічна-гаспадарчая вартасьць геніяльнае адзінкі, якая выйшла з гушчаў народу дзякуючы атрыманай асьвеце, сто разоў акупіць найвялікшыя выдаткі з боку дзяржавы на шырэньне народнае асьветы.

Мудрая думка шляхотнага барацьбіта за народную асьвету ня мела, як ведама, залішне гучнага водгуку ў кіруючых сфэрах царскае Расеі. Ня можна сказаць, каб поўнае зразуменьне гэтае думкі знайшоў наш беларускі народ і на „асьвечаным Захадзе“—навет у нашыя часы, калі так-званы „гаспадарчы чыньнік“ як-быццам цалком кіруе палітыкай. У выніку ж гэтага—ў сучаснай Польшчы, якая ляжыць у цэнтры Эўропы, звыш двух-мільённы масыў беларускага сялянства па сягоньняшні дзень трымаецца ў стане нейкае „выспы анальфабэтызму“, і гэта — ў той час, калі навакол Польшчы, як суседзямі з Захаду, так і з Усходу, на народную асьвету, а перадусім—на тэхнічна-гаспадарчае ўзгадаваньне і ўсьведамленьне шырокіх народных масаў выдаюцца літэральна міліярды! Сьмех сказаць: пад той час, як у Усх. Беларусі існуць тысячы беларускіх школаў рознага тыпу і ступені, а народныя гушчы літэральна засыпываюцца кніжкамі, брашурамі, часопісамі ня толькі агітацыйна-прапагандовага, але і практычна-асьветнага, пераважна тэхнічна-гаспадарчага зьместу,—у нас на культурным Захадзе, у цэнтры Эўропы, няма ня толькі ніводнае тэхнічна-гаспадарчае школы з беларускай выкладовай мовай, зразумелай для народу, але няма навет ніводнага сельска-гаспадарчага часопісу ў беларускай мове, каторы абслугоўваў-бы звыш двух мільёнаў беларусаў - хлеборобаў Польшчы!...

—·—

Дазволім сабе падзяліцца з чытачамі красамоўным прыкладам з сучаснага беларускага жыцьця, ярка ілюструючым тое, што сказана вышэй.

У сучасны момэнт сядзіць у Варшаве жыхар сяла Іўе, Мікалай Каравайчык, родам з Любчанскае гм. Навагрдзкага пав. Павёз ён у сталіцу збудаваны ім матор (рухавік) уласнага свайго памыслу, названы ім пабеларуску „самацягам“. Вынаход Каравайчыка, ужо апатэнтаваны ў Варшаве, выклікаў вялізарнае зацікаўленьне ў фаховых колах сталіцы. Зацікавіўся ім і гэткі паважны вучоны, як п. Прэзыдэнт Рэспублікі інж. Мосьціцкі, які неаднойчы асабіста гутарыў з вынаходцам. Матор, як казаў нам, бавячы нядаўна ў Вільні, сам вынаходца, дый як кажа тэкст польскага патэнту, „працуе без даплыву энэргіі звонку, вытвараючы яе... сам з сябе!“

Праўда, гэта страшэнна дзіўна гучыць для фаховага, а навет — проста для ўзгадаванага вуха, б'ючы ў самыя падставы сучаснае навуковае веды... Дык ня будзем тутака разводзіцца аб самым вынаходзе, якога мы ня бачылі. Запраўдную вартасьць гэтага вынаходу, які можа й запраўды робіць „пераварот у сучаснай мэханіцы“, ацэняць спэцыялісты. Нас цікавіць у гэтай усей справе нешта іншае.

Важна тое, што ў гушчах нашага загнанага народу дрэмлюць вялікія скрытыя сілы і магчымасьці, жывуць усьцяж—як-быццам „у стане рашчыны“ — геніяльныя адзінкі. Але выхад у сьвет—на агульную, часам можа й сусьветную карысьць — можа даць ім толькі агульная і фаховая асьвета, якое нашаму вынаходцы якраз нехапае. Праўда, пры асабістай стычнасьці вынаходца робіць надзвычайна дадатнае ўражэньне сваей рэчовасьцяй, павагай і скромнасьцяй: чуецца ў ім адразу нейкая скрытая творчая сіла. Але сіла гэтая—„сьляпая“, цёмная... Сіла гэтая сама творыць у ім, і ён ня ўмее вытлумачыць точным навуковым словам таго, што яна стварыла: ён можа толькі паказаць свой твор на дзеле. А таму—побач з вялізарнай сымпатыяй і пашанай—асоба вынаходцы будзіць у нашай душы і вялізарны сум... Запраўды ж шкада, што сонца навукі не зрабіла ўнутры яго разуму і навакол яго ў прыродзе яснага дня, што лёс змусіў вынаходцу шукаць сваей творчай дарогі ўпоцемках, вобмацкам...

Ня будзем гадаці, чаго варты яго вынаход, ці запраўды ён „зрабіў пераварот“,

знайшоўшы нейкі „прынцып бязкрынічнае энэргіі“... Бясспрэчна адно: тое, што творчая галава самога вынаходцы — гэта тая самая вялізарная вартасьць, аб якой казаў слаўны расейскі эканаміст-народнік,—вартасьць, якая — пры спрыяючых варунках разьвіцьця і асьветы — магла-б даць сьвету новага генія тэхнікі, можа й першага рангу!

Няжаль, наш вынаходца — ўжо немалады (мае пад 50 г.), дык пачынаць навуку ад пачатку—цяжка, а веды сельскае школы — нехапае...

Тым большым „цудам сьпога генія“ зьяўляецца тое, што ён здолеў сам, без усялякае дапамогі звонку, збудаваць машыну—ня толькі вельмі зложную (складаецца быццам больш як з 1000 паасобных частак, дапасаваных адна да аднэй блізу што навока—без матэматычных аблічэньняў), але, што найважней: пабудаваную на нейкім новым, дагэтуль няведамым прынцыпе...

—·—

Нас, з нашага беларускага гледзішча, цікавіць ува ўсім гэтым яшчэ адзін характэрны мамэнт.

Зразумела-ж: навука, веда — рэч інтэрнацыянальная, агульна-людзкая. Ня можа быць „польскае арытмэтыкі“, або „беларускае астраноміі“. Але-ж тыя шляхі і ходы, якімі навука ўваходзіць у жывыя мазгі жывых людзей,—наскрозь нацыянальныя, прынамся — ў першых стадыях іх разьвіцьця і ўзросту. Гэтак сама псыхічныя карэньні навукі і веды, асабліва-ж—навуковага, як і ўсялякага іншага творства адзінкі,—глыбака нацыянальныя.

І вось—характэрна, што і наш вынаходца, шчыры, сьведамы беларус—„з крыві, косьці і духа“,—спарадзіўшы свой вынаход, даў яму „хрышчонае імя“—беларускае... І як ні націскалі на яго ў варшаўскім „Ужэндзе Патэнтовым“, ён рашуча настаяў на тым, каб у польскім тэксьце патэнту цалком быў захаваны беларускі назоў яго „самацягу“, як роўна-ж і цэлы рад іншых назоваў для паасобных частак яго зложнае машыны, каторая зьяўляецца, відаць, „жывой“ і „роднай“ для вынаходцы, як дзіця для бацькі...

Вынаходца Мікалай Каравайчык, як казаў ён нам сам падчас сваей візыты ў Вільні, 10-12 гадоў ужо заняты выключна і цалком думкамі аб сваім вынаходзе. Ясна, што ён таму заўсёды быў далёкі ад усялякае „палітыкі“, ад нацыянальна-грамадзкае працы. Але-ж, як аказалася, „тэхнічны геній“ сядзіць на такім крэпкім, так глыбака ўросшым у родную зямлю нацыянальным карэньні, што вырваць яго ня здолеў і сам вынаходца, ня гледзячы навет на самыя салодкія варшаўскія спакусы...

Ці-ж можа быць больш яркі доказ сілы і моцы нацыянальнага самапачуцьця беларуса —ня толькі на вяршынях сьведамага грамадзянства, але і на бязьмежных раўнінах сярмяжнага народнага мора?!

Дык шануйма мы ўсе гэтыя нашыя нацыянальныя карэньні, бо толькі на іх вырасьце да неба, „каб убачыць сонца“ ў-ва ўсей красе, нашае беларускае дрэва—свайму і іншым народам на карысьць. Дый толькі самапашанай здабудзем і пашану з боку іншых народаў.

# ПОКЛІЧ.

Жыві, кіпі, кроў маладая!
Твары нам новае, твары!
Ідзі за тымі, хто ўзьлятае
Туды, да сонца, да зары!
*
Шукай там новыя дарогі,
Вядзі душу ў бязьмежны край!
Вядзі, а там без засьцярогі
Шыбуй да мэты і шукай!
*
Шукай патрэбаў несьмяротных,
Чаго ня знаюць на зямлі,
І разбудзі людзей гаротных,
Сьляпым і цёмным сьвет пашлі!
*
Зірні туды—ўгару, ў туманы,
Вышэй да зорак, да гары
І асьвяці свой шлях агнямі,
Твары нам новае, твары!

Вучань 4-ае кл. **А. Бяласік.**

# Гаспадарчы аддзел.

## Не забывайма аб сенажацях.

Ня трэба і даводзіць, якое вялікае значэньне маюць для сялян добрыя сенажаці. Бяда толькі ў тым, што такіх сенажацяў у нас мала. Большасьць іх прадстаўляе сабою балотныя абшары, парослыя рэдкай і благое якасьці расьліннасьцю. Аднак, кожную сенажаць можна зрабіць урадліваю, калі толькі прылажыць працы і стараньня, а дзе гэтага мала, то і большы ці меншы капітал.

Балоты, якія заўсёды маюць лішку вільгаці, ніяк направіць нельга, пакуль яны ня будуць асушаны, і мы аб іх тут гаварыць ня будзем. Што-ж тычыцца сенажацяў, у каторых вільгаць не перавышае нармальных граніцаў, то такія сенажаці направіць ня так трудна.

Галоўныя прычыны неўраджаяў на сенажацях, у каторых вільгаць ня выходзіць із нармальных межаў, ёсьць наступныя: 1) зьляганьне глебы (залішняя шчыльнасьць) і 2) абядненьне глебы на пажыўныя складнікі. Апрача таго сільна абніжае ўраджаі сенажацяў засьмечваючая расьліннасьць, а з яе перадусім мох. Таксама вялікія шкоды сенажацям робіць вясеньняе спашываньне іх жывёлай.

Да агрыкультурных спосабаў, дзякуючы каторым сенажаці з году ў год падтрымліваюцца ў добрым стане, трэба ў першую чаргу аднесьці баранаваньне сенажацяў. Баранаваньне праводзіцца дзеля двух мэтаў: для ўспульхненьня зямлі, дзякуючы якому паветра мае лепшы доступ у глебу, а так-

сама, каб пазбыцца моху, які перашкаджае росту добрай травы.

Раньняю вясною, калі зямля размерзьне на якіх-небудзь 4—6 цэнтымэтраў, трэба адпраўляцца на сенажаці з бараною і выдзіраць мох. Выдзерты мох можна скарыстаць на кампост, або высушыць і ўжыць на падсьцілку для жывёлы.

Калі зямля ўжо добра абсохне, але трава яшчэ ня „рушыла", трэба правясьці ўласьцівае баранаваньне. Гэтае баранаваньне ўжо робіцца дзеля таго, каб успульхніць глебу і гэтым зрабіць адпаведны прыступ да яе паветра. Доступ паветра ў глебу абавязкова патрэбны, бо толькі ў такім выпадку ня творацца ў глебе шкадлівыя для расьлінаў квасы, а із глебы і расьлінных рэштKаў вытвараецца найболей пажыўных складнікоў, лёгка прыступных для расьлінаў.

Вясеньняе баранаваньне непатрэбна на сенажацях з лёгкаю глебаю, а на тарфяных глебах дык навет шкодзіць. Тарфяныя глебы карысна ўкатваць вальцамі вясною і пасьля кожнага ўкосу.

Побач з заходамі на сенажацях спосабамі мэханічнымі, якімі ёсьць баранаваньне і валаваньне, патрэбна яшчэ і пэрыядычнае гнаеньне іх. Найчасьцей сенажаці гнояцца хлеўнай жыжкай. Жыжка разбаўляецца вадою, і ёю паліваецца сенажаць у вільготную пагоду. З штучных гнаёў на сенажаці пераважна ўжываюцца паташовыя гнаі, асабліва звычайны попел (10 — 20 цэнтнараў на гэктар), а пасьля каініт (5—10 цэнта.). **З. К.**

---

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Абход нацыянальнага сьвята.** У нядзелю, 25 сакавіка, Таварыства Беларускае Асьветы ладзіць у салі Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9) урачыстую акадэмію з прычыны 16-ых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі. Акадэмія складаецца: а) з рэфэрату гр. А. Луцкевіча на тэму „Шляхі разьвіцьця беларускае ідэі"; в) дэклямацыяў адпаведных твораў беларускіх поэтаў; с) выступленьня беларускага хору пад кіраўніцтвам гр. С. Караля. — Пачатак у 7 г. вечара.

У 11 г. 15 м. раніцы — пасьля абедні — адбудзецца малебен у Пятніцкай царкве.

**Добры пачын.** З ініцыятывы гр. Ф. Аляхновіча група моладзі, пад асабістым кіраўніцтвам ініцыятара, падгатаўляе пастаноўку на сцэне ведамае камэдыі Аляхновіча „На Антокалі". Увесь даход з гэтага цікаўнага спэктаклю пойдзе на дапамогу галадаючаму насяленьню Віленшчыны.

Вітаем пачынаньне грам. Аляхновіча і жадаем, каб ягоны шляхотны пачын знайшоў насьлядоўцаў!

**З Беларускага Навуковага Т-ва.** Т-ва распачала ўжо падгатоўку матэр'ялаў дзеля новага выданьня свайго „Гадавіка" на 1934 год. На рукі Ураду паступіла некалькі паважных прац, якія будуць зьмешчаны ў гадавіку.

**Сэсія Рады ТБА.** 28 га сакавіка ў памяшчэньні Т ва Беларускае Асьветы (Мэтрапалітальны пляц 3, кв. 12) у 6 гадз. вечара адбудзецца звычайная сэсія Рады ТБА. На парадку дня: 1) справаздача Ураду і Рэвізыйнае Камісіі, 2) справа абсолютóрыюму Ураду; 3) выбары новых уладаў Т-ва на 1934 год; 4) вольныя прапазыкі.

---

**Пашырайце нашу газэту!**

## На правінцыі.

**Тыфус у Віленшчыне.** Голад у Віленшчыне шалее не на жарты. Аб павазе палажэньня найлепш сьведчыць, як заўсёды, выбухшая шмат дзе эпідэмія тыфусу. У Дзісьненскім павеце — самы горад і некаторыя асяродкі павету, якраз з найбольш падбітай голадам адпорнасьцю насяленьня, ахоплены заразай. А ў апошні час эпідэмія аб'явілася навет у самай Вільні. Санітарныя ўлады прынялі энэргічныя меры, каб ня даць пашырацца страшэннай хваробе. Як ведама, пагражаючая ўсім эпідэмія тыфусу найлепш вучыць сытага разумець галоднага...

**Рэнэгаты — найгоршыя нашы шкоднікі.** (в. Няхведы, Жодзішкай гміны Вялейскага пав.). Часьць сьведамай нашай моладзі дн. 11-га лютага сёлетняга году, пры дапамозе начальніка Пажарнай Каманды з вёскі Сьпягліцы, зладзіла спэктакль-вечарыну. На сцэне адыгралі п'еску „Паўлінка" Янкі Купалы. Артысты-аматары, з каторых большасьць яшчэ першы раз выступалі на сцэне, ігралі вельмі добра; публікі сабралося поўная хата, некаторыя папрыяжджалі аж за 20 вёрст і болей. Усе былі вельмі захоплены ігрой маладых артыстаў-аматараў і не жалелі воплескаў.

Аднак жа, як і ўсюды, так і ў нас ёсьць здрадлівкі рэнэгаты, каторыя ўсякімі спосабамі стараліся недапусьціць да адыграньня спэктаклю. Спаткаўшы якую-небудзь з дзяўчат, якія бралі ўдзел у спэктаклі, угаварывалі ёй, каб адказалася ад ролі, бо, калі будзе выступаць на сцэне, то ніколі замуж ня выйдзе; але нашыя дзяўчаткі настолькі сьведамыя, што не зварачалі ўвагі на іхнія глузды. А калі гэта нічога не памагло, то ў часе спэктаклю стараліся зрабіць авантуру, падраблялі білеты, пробавалі сілай пхацца не на сваё мейсца. Аднак-жа, спаткнуўшыся з энэргічным адпорам з боку арганізатараў, мусілі ўспакоіцца й цішком заняць сабе належнае мейсца.

Стыдна вам, браточкі, што замест таго, каб памагчы з'арганізаваць свае родныя беларускія спэктаклі, вы стараецеся ўсялякімі способамі ім перашкаджаць, самі-ж нічога ня робіце, а другім працу утрудняеце. А вам, сьвядомыя беларускія дзяўчаткі і хлапцы, каторыя ў такіх трудных абставінах, спатыкаючы так многа перашкодаў ня толькі ад чужынцаў, але й ад сваіх цёмных нясьведамых суседзяў, не паддаліся іхнім юдашаўскім намовам і давялі сваю працу да канца,— чэсьць і слава! Славэ, што не зварачаеце найменшай увагі на розныя ніягодныя брэхні, а робіце свае. Прысутны.

**З жыцьця нашае моладзі.** (Крывіцкая гм., Вялейскага пав.) У нядзелю 28. I. 1934 году ў в. Восаве было зладжана польска-беларускае прадстаўленьне. Адыграны быў беларускі сцэнічны твор „Лекары і лекі“ з дазволу тамашняе вучыцелькі. Беларускі твор быў адыграны дзякуючы дзяўчатам Надзі Верабей, былае вучаніцы В. Б. Г., і Алёне Грышкевіч. Варта адзначыць, што дзяўчаты в. Восава адходзяць ад прымітыўнасьці, а асабліва заслужываюць на пахвалу вышэй успомненыя Алёна і Надзя. Затое ж у суседніх вёсках, як: Кіржана, Міцькавічы, Вытраскі, Выгалявічы — моладзь зусім ня ўмее жыць палюдзку. У іх апроч дзікіх „танцулек“, на якіх толькі можна пабачыць бойкі, п'яныя авантуры і іншыя няпрыстойнасьці, нічога добрага і культурнага ня бывае. Гэтыя вёскі „славяцца“ па цэлай ваколіцы сваёй някультурнасьцяй.

Хлопцы з в. Вытраскі, пайшоўшы на вясельную вечарыну на хут. Маліпаўку 4-га лютага с. г., зарэзалі жанатага чалавека з вёскі Кавалёў, каторы пакінуў малых сірот з жонкай.

Сорамна вам, моладзь з вышэй успомненых вёсак! Пакіньце сваё „храбрае“, як вы кажаце, жыцьцё. Ці-ж ня лепей узяцца за культурнае жыцьцё, каторае вам паможа дайсьці да лепшае будучыны? Бо вашае цяперашняе жыцьцё—толькі на карысьць нашым ворагам! Раджу вам тыя грошы, каторыя вы аддаеце на „дзінатур“, ці—пасьля бойкі—на суды й на лекі,—аддайце іх на добрыя кніжкі, то тагды і самі пераканаецецеся, што вы жывеце падурному.

Вам, Алена і Надзя, шчырая падзяка за вашу працу! Зычу вам і надалей служыць прыкладам і для сваіх суседзяў. К. Г.

**„Божы сэквэстратар“,** (Чарневічы, Дзісьненскі пав.). Асабліва цяжка жывецца нашаму селяніну ў гэтым годзе. Недастаткі, голад і холад сьціснулі вёску, як абцугамі. Народ, шукаючы ратунку, б'ецца, як рыба аб лёд. Тут у гэтай бядзе павінен быў бы, здаецца, хоць можа не з ратункам матэр'яльным, але з словам хрысьціянскае надзеі, хрысьціянскае пацехі выступіць наш душапастыр сьвяшчэньнік Саковіч. І вось, у такі час, наш бацюшка,—старым звычаем, як і іншыя, па калядных сьвятах „едзе па калядзе“. Кожны з чытачоў вяскоўцаў добра ведае, што гэта значыць... Балюча адчулі гэтую „каляду“ і нашы Чарневічы. Трэба мець запраўды-ж асаблівае „хрысьціянскае міласэрдзе“, каб у такі цяжкі час нават прымаць ад сялянаў-жабракоў „даркі“, але яшчэ большую „адвагу“ трэба мець, каб вымушаць ад іх гэтыя „дабравольныя даявьні“... Праўда, ёсьць і бацюшкі—блізу ўбогія, але як раз тыя, як ведаем, не тасуюць да сваіх пасомых такіх „царкоўна сэквэстратарскіх“ мэтадаў... Чалавек у бядзе адчувае гэтую бяду і на другім. Але наш грошалюбівы душапастыр гэтае бяды не адчувае і не адчуваў, бо грошы плывуць да яго шырокаю крыніцаю. Атрымлівае за навучаньне закону Божага, дый з Дзісны за вучыцельства, і за трэбы. А ўсё мала! ну, і — паехаў як гавораць у нас „Божым сэквэстратарам“, за апошнім дабром мужыка-жабрака па згаленаму прыходу.

Ці разумеюць вышэйшыя духоўныя ўлады, як у вуснах такога айца гучаць словы аб хрысьціянскай маралі, любові да бліжняга, міласэрдзі і г.д. Чулі ў нас нешта і аб папярэдняй дзейнасьці гэтага „божага чыноўніка“, чулі якімі маральнымі якасьцямі абдораны ён, як ён шляхам даносу на свайго-ж сабрата на фаху заўладаў яго прыходам і г.д. Можа цяпер духоўныя ўлады знойдуць якісь выхад з гэтага цяжкага для нас палажэньня ды звольняць нас ад „саблазну“, а нашу моладзь аб нядобрага прыкладу...

Прыхаджанін.

# Палітычная хроніка.

**Імяніны марш. Пілсудскага.** У дзень 19 сакавіка блізу ўся Польшча (а таксама шматдзе і заграніцай) урачыста сьвяткавала імяніны марш. Пілсудскага. Асабліва сэрдэчны характар мелі ўрачыстасьці ў Вільні, дзе марш. Пілсудскі правёў гэты дзень пасярод сваёй сям'і.

**Надзвычайныя паўнамоцтвы для Прэзыдэнта Рэспублікі.** На апошнім паседжаньні Сэнату прыняты закон аб надзвычайных паўнамоцтвах для Прэзыдэнта Рэспублікі. На падставе гэтага закону Прэзыдэнт атрымаў права—на ўвесь час перарыву працы Сойму і Сэнату да новай звычайнай сэсіі заканадаўчых палат — выдаваць „дэкрэты з сілай закону“.

**Зачыненьне бюджэтнай сэсіі Сойму і Сэнату ў Польшчы.** 16/III загадам п. Прэзыдэнта Рэспублікі зачынена бюджэтная сэсія Сойму і Сэнату.

**Да лёсу канстытуцыйнае рэформы.** Тэкст прынятае Соймам новае канстытуцыі Польшчы адасланы быў у Сэнат. Але сэсія Сэнату зачынена. Такім чынам далейшая праца над тэкстам канстытуцыі ізноў адкладаецца. Газэты пішуць, быццам улетку мае быць склікана надзвычайная сэсія Сэнату — дзеля апрацоўкі канстытуцыі. Такім чынам, справа адкладаецца ізноў.

**Варшаўскі універсытэт зачынены ізноў.** У сувязі з новай праявай запраўднага хуліганства на аўтаномным абшары Варшаўскага універсытэту, дзе група, ці банда студэнтаў пабіла прафэсара гісторыі Гандэльсмана, міністар асьветы загадаў зачыніць універсытэт.

**„Атрады працы“.** „Выдзел працы і соцыяльнай апекі“ Палескага ваяводзтва приступіў да арганізацыі так званых „атрадаў працы“, распачынаючы такім чынам „актыўную барацьбу з безрабоцьцем“, як гэта робіцца ўжо ў ваяводзтвах заходніх. Атрады працы маюць быць „скашараваны“, гэта значыць: будуць жыць у асобных „казармах“, атрымаюць аднолькавую вопратку і плату па 50 гр. ў дзень, а апроч таго—па 5 зл. у месяц. Але гэтая месячная пэнсія будзе складацца на імя работніка ў ПКО.

---

**Аўстрыя—Вэнгрыя—Італія.** 16/III у Рыме падпісана „палітычна-гаспадарчае паразуменьне“ паміж Італіяй, Аўстрыяй і Вэнгрыяй. Як ведама, дзеля гэтае мэты прэм'еры Аўстрыі і Вэнгрыі прыехалі ў Рым. Умова гэтая, якую падрыхтоўваў Мусоліні ўжо даўно, зрэалізавалася нарэшце, але ў значна больш абмежанай форме, чым праектаваў Мусоліні. У апошні мамэнт гэтай акцыі значна дапамагла Францыя, якая раней спраціўлялася такому пашырэньню ўплываў Італіі ў Аўстрыі і Вэнгрыі, а пасьля дала Мусоліні вольную руку, каб толькі забясьпечыў Аўстрыю ад захапленьня яе Нямеччынай. Таму першым палітычным пунктам паразуменьня ёсьць забясьпечаньне незалежнасьці Аўстрыі. Кожная дзяржава можа далучыцца да гэтае ўмовы, калі прызнае цалком гэты найважнейшы пункт умовы. Такім шляхам Мусоліні думае прыцягнуць да паразуменьня і дзяржавы Малае Антанты, якія, як ведама, асабліва заінтэрэсаваны ў захаваньні незалежнасьці Аўстрыі. Нямецкая прэса вельмі нездаволена гэтым пасьпехам Мусоліні (і Францыі).

**Дыплёматычная барацьба ў справе „разбраеньня“.** Францускі і нямецкі ўрады ўсьцяж вядуць перастрэлку дыплёматычнымі нотамі ў справе „збраеньня-разбраеньня“. Апошняя нота Гітлера, вельмі лагодная па форме, крэпка стаіць аднак на старых дамаганьнях, робячы Францыі толькі дробныя ўступкі. Францускі ўрад так сама адмовіўся ад усялякіх уступак дый націскае на Англію, каб не падтрымлівала нямецкіх дамаганьняў. І англійскі ўрад яўна пачынае ізноў перахіляцца на бок Францыі, што выклікае страшэннае абурэньне ў Нямеччыне. Францускі міністар заявіў Гітлеру: або разбраеньне Нямеччыны, або Францыя ўтрымае Саарскі абшар, як заставу—дзеля сваей бясьпечнасьці. Англія хацела-б падпісаць — хоць-бы якую разбраенчую умову, але безадкладна: „Навет дрэнная ўмова лепш, чым ніякая“,— заявіў англійскі міністар замежных спраў.

10 красавіка зьбярэцца прэзыдыум разбраенчае канфэрэнцыі, які мае вырашыць, ці ёсьць надзея на заключэньне гэтай „хоць-бы дрэннай умовы“, дый — ці ўзнавіць працу канфэрэнцыі, ці ўжо пахаваць на даўжэйшы час...

**„Дыктатура“ ў Эстоніі.** У Эстоніі — сэнсацыя. У часе падрыхтоўкі да выбараў—парляманцкіх і прэзыдэнцкіх, якія мелі адбыцца ў красавіку, „саюз былых комбатантаў“ (учасьнікаў вайны) падрыхтоўваў фашыстаўскі пераварот і захват улады. Але ўрад, паведамлены аб замаху, маланкава прыняў меры, арыштаваў замахоўцаў—звыш 500 асоб, абвясьціў край на ваенным палажэньні і даў надзвычайныя паўнамоцтвы прэзыдэнту і ведамаму ген. Ляйдонэру. Эстонскі ўрад можа пахваліцца тым, што своечасна спыненая „хатняя вайна“ не каштавала народу ніводнае каплі крыві.

---

# Характэрныя лічбы.

„Głos“—орган працаўнікоў на дзяржаўнай службе—падаў толькі што вельмі цікаўныя інфармацыі аб палажэньні работнікаў у Польшчы. Інфармацыі гэтыя, перадрукаваныя ў дадатку „Kur. Wil.“ пад назовам „Legion“, хоць гавораць аб „польскім“ работніку, абыймаюць у яшчэ большай меры і работніка-беларуса,—дык цікаўна пазнаёміцца з імі і беларусу-вяскоўцу.

„Міжнародавае Бюро Працы“ ў Жэнэве (ў Швайцарыі) апублікавала статыстыку аб заробках і жыцьцёвым роўні работнікаў у 16-ёх дзяржавах. З цыфраў, зьмешчаных у гэтай статыстыцы, відаць, у якой вячуванай вэндзы жыве працоўны чалавек у Польшчы.

„Даведываемся із справаздачы МБП, што ў Польшчы работнік аддае на ўтрыманьне (пражыцьцё) 63.2% свайго заработку, —пад той час, як работнік у Амэрыцы, які корміцца шмат лепей, аддае на гэта 33.4%. Гэта паказвае, якія слабыя заработкі маюць польскія работнікі.

„На разрыўкі (забавы) і культурныя патрэбы амэрыканскі работнік аддае 19% свайго заработку, а польскі работнік—0 (нуль!)

„На кватэру амэрыканскі работнік аддае 27,8% свайго заработку, а польскі работнік — 6,6%.

„Ведамы ўсім страшэнныя варункі жыльля, якія мае польскі работнік з сваёй сям'ёй.

„На падставе статыстычных лічбаў, сабраных з 16 ёх дзяржаў, польскія работнікі —з пагляду на жыцьцёвы ровень—залічаны на 14-ае мейсца. Мейсца гэтае—не апошняе: за польскім работнікам стаіць яшчэ... кітайскі кулі!“

Падаем усё гэта да ведама нашых чытачоў на вёсцы, якія самі жывуць у страшэнна благіх абставінах, каб ведалі, якое салодкае жыцьцё маюць работнікі ў месьце і—каб не зайздросьцілі работнікам...

# Цікаўныя і карысныя рэчы.

### Гаспадарчае панаваньне Японіі.

Уся эўрапэйская і амэрыканская прэса вельмі ўстрывожана з прычыны нячуванага ўздыму японскае прамысловасьці і гандлёвага заваяваньня найвялікшых прамысловых дзяржаваў сьвету. Японія б'е іх — без канкурэнцыі — нячуванай таннасьцяй сваіх тавараў. Таннасьць японскіх выбараў папросту не да веры. Прыкладам, японскія кішанёвыя гадзіньнікі нязвыклай сьцісласьці прадаюцца ў Швайцарыі (як ведама, клясычнай краіне найлепшых і найтаньнейшых гадзіньнікаў!) па некальні злотых за штуку; электрычныя лямпачкі—па 8 грошы; дасканалыя аўтамабілі японскія каштуюць па 300 рублёў і г. д.

Такі „наступ гаспадарчы з боку Японіі на Эўропу пагражае папросту яе існаваньню",—як піша адна з італьянскіх газэтаў.

### „Разброіліся"—пасьля вайны!

Ведамы Лёйд-Джордж у адной з сваіх прамоваў у англ. парляманьце даў сэнсацыйны абраз таго „абмежаваньня" збраеньняў, якое зроблена ў сьвеце—ў выніку апошняе вайны.

Францыя, казаў Л.-Дж., мае цяпер наймагутнейшую армію ў сьвеце, без параўнаньня сільнейшую, чым тая, якую мела Нямеччына ў 1914 г. А вось пара лічбаў, якія паказываюць узрост збраеньняў галоўных морскіх дзяржаў.

У 1914 г. Англія, Амэрыка, Францыя і Японія мелі, прыкладам, мінаносцаў 135.000 тоннаў—40.000 т.—35.000 т.—4.470 т.; цяпер парадак гэты зьмяніўся так. Англія, якая мела ў 1914 г. 135.000 тоннаў мінаноснага флёту, цяпер павялічыла яго толькі... да 197.000; Амэрыка, меўшая 40.000, цяпер мае аж 259.000 т.! Францыя за той-жа час падняла свой мінаносны тоннаж з 35.000 да 198 000, ці перагнала ўжо навет Анлію! Японія-ж, меўшая да вайны толькі 4.470 тоннаў, цяпер мае аж—125.000, ці—больш як у 25 разоў (на 2400%)!

Ня менш цікаўныя лічбы падводных лодак. Англія мела іх у 1914 г. 47.000 тоннаў, цяпер мае 61.000; Францыя мела 33.000, мае 97.000; Амэрыка мела 16.000, мае 77.000; Японія мела 3.246, мае—77.000!

Францыя па вайне падвоіла свой ваенны бюджэт; блізу тое ж зрабілі Амэрыка, Японія і Італія.

Яшчэ нядаўна прэз. Рузвэльт падлічыў, што цяпер у Эўропе „пад ружжом" стаіць агулам 30 мільёнаў людзей, ці — на 10 мільёнаў больш, як у 1914 г.!

Вось як выглядае рэзультат тэй „апошняй" вайны, якая вялася нібы-то пад лёзунгамі здабыцьця „вечнага міру" і — „агульнага разбраеньня"!

М. Машара.

# ВЯСЕЛЬЛЕ.

(Даканчэньне).

II.

Ох, пайду я ды на вуліцу,
Ды на вуліцу вясковую, —
Запяю вам пра разгульліца
Ды разгульліца зімовае.

Ах, ты, скрыпка мая,
Ты—сасновая:
Зноў зайграй-жа ты мне
Штось вясёлае!

Ах, цымбалы мае
Тонкаструнныя:
Зноў зайграйце-ж вы мне
Штось разгульнае!

Вёска, вёсачка,
Хаткі шэрыя
З аднэй вулачкай,
А праз вёсачку
Ды дарожачка
Сьнежна-белая
У крывулячкі.

Па дарожцы рух,
Табуніцца люд.
(Сэрца б'е ў кажух!)
Што за зьява тут?

Уздоўж вулачкі
Пышна ёлачкі
У дзьве столачкі
Панасаджаны.

А між ёлачак
Белы столічак,
І хлеб-соль на ім,
І дзьве чарачкі
(Як для парачкі)
На талерачцы
Ды з гарэлачкай.

А людзей, людзей!
З усяго сяла
Спытакаць гасьцей
Усе прыйшлі сюда.

Спатыкаць прыйшлі вясельле —
Маладога ад вянца.
У таўпе вясёла вельмі,
Сьмех і жарты без канца.

Там за вёскай ў белай далі
Зноў разгульна заігралі
Разьліўныя шумяты.

Пад'яжджаюць...
Нават коні
Нецьвярозыя сягоньня,—
Чуць стрымаюць іх сваты.

Замахалі хлопцы шапкамі...
Вылязае малады,
А дзяўчаты—хоць насаткамі.—
Бабы песьню завялі:

— Ой, равуць коні, равуць,
— Багатырачку вязуць.—

А музыка, вось вяртун,
Не шкадуе рук і струн
Ды ля століка
Каля конікаў
Марш іграе зноў,
Аж хвалюе кроў.

Маладая й малады
Чаркі ў рукі узялі.
А іх вітае
Увесь з таўпы народ.
І жадаюць,
Каб шчасьлівыя былі
Многа, многа год.

А яны пад гоман
Заглядзелісь на сябе,
Быццам ім даўно вядома,

Што ім доля прынясе,
Што іх шчасьце ня міне...
Выпіваюць...
Стол прымаюць,
І ідуць яны да хаткі...
На парогу
Кажух сьцелюць ім пад ногі;
За парогам
Спатыкае родна матка

З сольлю, з хлебам,
Як і трэба
У вясельліца, —
Зноў з гарэліцай.

Выпрагаць пайшлі там коні,
Заяжджаюць з вулкі ў двор
(А шумёлы знову звоняць), —
ўсё хаваюць назапор.

Свацьці просяць у камору
Маладую і сватоў,
Трэ' паправіць там прыборы
І пазбыцца халатоў.

А у хаце людзей —
Аж калышуцца!
Ад стала да стала
Не праціснуцца.

І такая бяда

Гаспадынячкам:
Не прайсьці да стала
Ды з начыньнейкам!

Пірагоў, каўбас —
Сталы ломяцца!
То сватам папас:
Няхай кормяцца.

Ах, суседцы мае,
Расступецеся-ж вы:
Ці-ж ня бачыце—вядзе
Маладую малады.

Так прыгожа маладая
За падручачку ідзе
І цукеркамі кідае, —
Рух ў дзіцячай грамадзе!

Уся ў белым... белы вэлён
Распусьціла па плячох.
Нечым сьветлым твар авеян,
Радасьць сьвеціцца ў вачох.

І за стол, залезшы, селі
Маладая й малады.
А за імі ўсё вясельле:
Свацьці, дружкі і сваты. —

За стол селі... папарадку
Мейсца першае—гасьцям.
Каля столу—сама матка
Даглядае й бацька сам.

А музыкі—тнуць!
(Там гарэлку п'юць,
Пэўна й ім дадуць, —
Дык музыкі рады).

Маладая
Выпівае
Да сьвякровачкі, —
Потым чарку
Пакрываюць
Залатовачкі.

стан бела-палатняны,
Паясочкам павязаны,
Ды з кутаскамі...
Каб ў сям'ю яе прынялі
І з дачкамі параўнялі, —
Былі ласкавы.

А ў таўпе гудуць,
А ў таўпе пяюць
Маладусе—бабы:

— Ды ці цёплая-ж хатачка?
— Ды ці родная-ж матачка?

. . . . . . . . . . . .

І шуміць вясельліца!
І ізноў гарэліцы
Разьліўное мора...

І ўсю ноч да раніцы
Вясёла гуляецца,
Покуль хмель
Ня змора.

в Таболы, 15. II. 32 г.

---

# Паштовая скрынка.

**Грам. Уладзімір Гарэлік. Вялейка пав., р. Бараньца.—Паведамляем, што сэкрэтар'ят ТБА выслаў Вам беларускі правапіс Р. Астроўскага. Кніжак іншых выслаць Вам, як прыватнай асобе, ня можам. Трэба залажыць бібліятэту Т-ва, аб чым дакладныя інфармацыі атрымаеце ў лісьце.**

**Атрыманы грошы на падпіску „Роднага Краю" ад грамадзян: 1) Сьцяпана Городко, п. Казлоўшчына, в. Акачы—1,20 зл., 2) Грыгора Яйсона, п. Мікалаеў, кал. Калесьнікі — 3,50 зл., 3) Веры Асіцімскай, м. Ваўкавыск—2 зл., 4) Міхала Стулевіча, п. Касьцяневічы, в. Сяргеевічы—1 зл.**

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22